П

# ГАНДЛЁВЫ БЮЛЕТЭНЬ

## НАРКАМУНУТГАНДЛЯ БССР

РЭДАКЦЫЯ І КАНТОРА
г. Менск, Дом Урада, левае крыло, 4 паверх, комн. № 405.
тэл. № 23-287.

№ 29 | Год выдання 1-ы | 30 кастрычніка 1935 г. | № 29

# АРГАНІЗАВАЦЬ УЗОРНЫ КУЛЬТУРНЫ ГАНДАЛЬ МАЛОЧНЫМІ ПРАДУКТАМІ.

Побач з спецыялізаванымі магазінамі Белмаслапрома і малочнага завода, якія гандлююць шырокім асартыментам малочных прадуктаў, усе гандлюючыя сістэмы таксама гандлююць гэтымі таварамі.

Соцыялістычная сельская гаспадарка і прамысловасць з кожным днём даюць усё большую колькасць малочнай прадукцыі.

Гандлюючая сетка распалагае разнастайным асартыментам малочных прадуктаў, які налічвае не менш 30-40 відаў і якаснае абслугоўванне спажыўца надзвычай каштоўнымі для харчавання прадуктамі (жыры, бялкі) накладвае на гандлюючыя арганізацыі сур'ёзныя і вялікія задачы.

У першую чаргу трэба застанавіцца на пытанні санітарыі і гігіены, паколькі гандаль малаком і малочнымі прадуктамі патрабуе выключнай чыстаты. Між тым у радзе магазінаў яшчэ далёка не чыста. Змена санвопраткі праводзіцца рэдка. Паасобныя прадаўцы слаба сочаць за асабістай чыстатой.

Малако і малочныя прадукты, з'яўляючыся надзвычай высокакарыснымі і каштоўнымі прадуктамі з другога боку ствараюць вельмі спрыяючую глебу для развіцця розных мікраарганізмаў. Між тым большасць работнікаў, прадаючых малочныя прадукты, не ведаюць гранічнай тэмпературы і вільготнасці паветра для якаснага хавання гэтых тавараў. К прыкладу, магазін № 2 „Гастранома" магазін № 1 малочнага завода захоўваюць масла слівачнае разам з сырамі ў той час, калі нармальнай тэмпературы пры хаванні сыроў трэба лічыць 12—17 град. па Ц., пры вільготнасці паветра 88-90 проц. масла-ж патрабуе вільготнасці 75-80 проц. пры значна ніжэйшай тэмпературы.

Пры гэтым, як вядома, масла лёгка ўспрымае розныя пахі і сыр, які мае востры пах, натуральна не можа захоўвацца разам з маслам. Такім чынам, пытанні „таварнага суседства" набываюць важнае значэнне, бо ад гэтага часта залежыць якасць тавара.

Пры правядзенні вопытаў па вывучэнні норм натуральнай убылі, магазіны „Гастранома" №№ 1 2 далі розныя вынікі. Гэта тлумачыцца выключна неадпаведнасцю тэмпературы вільготнасці паветра.

Друкуемыя ў гэтым нумары Бюлетэня правілы гандля малочнымі прадуктамі даюць рад канкрэтных практычных паказаннях па пытанням снабжэння перавозкі, прыёмкі, хавання, продажу, санітарнага становішча і інш.

Правілы гэтыя павінны служыць практычным дапаможнікам для работнікаў магазінаў. Не гледзячы на тое, што правілы гандля малочнымі прадуктамі ўжо разасланы гандлюючым арганізацыям, да гэтага часу яны не даведзены да кожнага прадаўца. Між тым без добрага ведання правіл немысліма рацыянальная продажа і хаванне гэтых тавараў.

Практыка гандля малочнымі прадуктамі закранае многа розных пытанняў. Мы маем чатыры віды масла слівачнага, а ўсяго 12 гатункаў, а па цвёрдым сырам яшчэ больш гатункаў. Неабходна ўстанавіць такі парадак, які-бы забяспечыў давядзенне да спажыўца адпаведнага гатунка і тавара адпаведнай якасці.

Абазначэнне бальнасці і гатунка масла на скрынцы, як гэта робіць база Белмаслапрома, яшчэ далёка не вырашае пытання. Распаложаныя на прылаўку 4—5 плітак масла螺 рознага віда і гатункаў давольна лёгка пераблытаць. Масла аднастайнае па колеру і па метадах так званага органалептычнага парадка і таму надзвычай цяжка разабрацца дзе, напрыклад, масла салёнае 1 гатунку ў 14 р. кгр., ці гэткае жа салёнае масла—вышэйшага гатунку у 16 р. кгр. Вынутае масла з скрынкі, як-бы губляе свой „твар". Тут магчымы памылкі, а часта і злоўжыванні. Таму можна рэкамендаваць уціснутыя апячаткі на самім масле і сырах (скальзячая паверхня сыроў не прапітвае фарбу штампа). Спецыялісты таварабеды—практыкі павінны выказаць сваю думку па гэтаму пытанню.

Неабходна склікаць шырокую нараду работнікаў магазінаў, на якой усебакова абмеркаваць правілы гандля малочнымі прадуктамі арганізаваць гурткі тэхвучобы па аўладанню тэхнікай гандля гэтымі прадуктамі.

Рашэнні партыі і ўрада аб значным зніжэнні цэн на малочныя прадукты і шырокі асартымент гэтых прадуктаў абавязваюць вывучыць падрабязна арганізацыю і тэхніку продажу з тым, каб узняць гандаль малочнымі прадуктамі на вышэйшую ступень.

## КАМУНУТГАНДЛІ БССР

◆ Наркамунутгандль БССР прапанаваў Белгандлю і дырэктару магазіна будматэрыялаў адчыніць на акраінах Менска тры лабазы для продажу будаўнічых матэрыялаў у раёнах таварнай станцыі, Чэрвенскага рынка і Камароўкі.

◆ У адпаведнасці з рашэннем партыі і ўрада ўсе вадаёмы, якія эксплаатуюцца гарадскімі арганізацыямі спажыўкааперацыі, а таксама ўсе рыбныя ўчасткі перададзены ў веданне Белрыбтрэста.

◆ Рознічная прадажная цана на вінаград, завезены Белплодагародгандлем з Ташкента, устаноўлена ў размеры 4 р. 50 к. за кгр. Рознічная прадажная цана на дыні ўстаноўлена ў 1 р. 60 к. за кгр.

◆ Белплодагародгандлю прапанавана на працягу месяца абсталяваць у Бабруйску ўзорны фруктовагародніны магазін па продажу мясцовых і прывозных высокаякасных фруктаў.

◆ Наркамунутгандаль прыняў да ведама заяву нам. дырэктара Нафтазбыта т. **Маршава** аб тым, што ў БССР адгружана 11 цыстэрн (480 тон) газы для шырокага рынка.

Наркамунутгандаль абавязаў гандлюючыя арганізацыі Менска, Віцебска і Гомеля арганізаваць двухзменную работу магазінаў па продажу газы, узмацніўшы магазіны дадатковай колькасцю прадаўцоў з тым, каб не дапусціць чаргі пакупнікоў за газай.

◆ Наркамунутгандль абавязаў усе гандлюючыя арганізацыі на працягу 10-цідзённага тэрміна ліквідаваць запазычанасць па здачы мяшкоў Цукразбыту.

◆ Часова да рэарганізацыі, пры Наркамунутгандлі БССР створана Сельска-гаспадарчае кіраўніцтва (Начальнік т. **Флеер**) і аддзел грамадскага харчавання (Начальнік аддзела т. **Мінькові**ч).

## АФІЦЫЙНЫ АДДЗЕЛ

### Правілы гандля малочнымі прадуктамі

*(Зацверджаны пастановай Наркамунутгандля СССР № 864, ад 28-IX—35 г.)*

#### I. Агульныя палажэнні.

1. Гандаль малочнымі прадуктамі праводзіцца ў спецыялізаваных магазінах і палатках, а таксама і ў паасобных змешаных прадуктовых магазінах.

2. Магазіны, якія гандлююць малочнымі прадуктамі, павінны будаваць сваю работу на аснове культурнага абслугоўвання пакупніка ў адпаведнасці з павышанымі патрабаваннямі яго да якасці і асартымента малочных прадуктаў.

3. Магазіны павінны праводзіць адпаведныя мерапрыемствы па забеспячэнню правільнай растаноўкі рабочай сілы і ўшчыльненню рабочага дня работнікаў прылаўка, павышаючы пры гэтым якасць абслугоўвання пакупніка. У прыватнасці, пры рабочым дні магазіна больш 8 гадзін, неабходна каб у гадзіны максімальнага наплыва пакупнікоў у магазіне працавала найбольшая колькасць прадаўцоў, паменшаючы іх колькасць у гадзіны адносна слабага гандля.

4. Магазіны абавязаны забяспечыць прахаджэнне ўсімі работнікамі ўстаноўленага тэхмінімума па гандлю малочнымі прадуктамі і сістэматычна падвышаць іх кваліфікацыю.

#### II. Снабжэнне.

5. Магазіны, палаткі і аддзяленні прадуктовага магазіна, гандлюючыя малочнымі прадуктамі, абавязаны загадзя, але не пазней чым за адны суткі, даваць сваёй вышэйстаячай арганізацыі заяўкі на неабходную колькасць і асартымент малочных прадуктаў, якія падлягаюць дастаўцы ў магазін, палатку і т. д.

6. Завоз малочных прадуктаў з заводаў, халадзільнікаў і гандлёвых баз у магазін і палатку праводзіцца па заяўках апошніх і ў адпаведнасці з колькасцю і асартыментам, паказанымі ў заяўцы.

7. Дастаўка тавараў у магазін (палатку) павінна праводзіцца, як правіла, да пачатку работы магазіна.

8. Дастаўка тавараў у магазін (палатку) і яго прыёмка ў гадзіны гандлю не павінны парушаць нармальнай работы магазіна па абслугоўванню пакупніка.

#### III. Перавозка.

9. Перавозка малочных прадуктаў дапускаецца адпаведнымі транспартнымі сродкамі (пераважна аўтамашынамі) пры захаванні наступных умоў:

А. Упакоўка перавазімых прадуктаў.

а) Масла ўсіх відаў у закрытых скрынках і бочках;

б) Сыры дробныя—(галандскі, бокштэйн і т. п.)—у скрынках (швейцарскі—навалам);

в) малако разліўнае—у металічных лужоных запламбіраваных флягах;

г) бутэлячнае малако—у спецыяльных скрынках;

д) смятана—у закрытых кадках, або металічных ушатах;

е) тварагі—ў закрытых кадках;

ж) простакваша—у спецыяльных скрынках і сыркі—у спецыяльных скрынках і кошыках.

Б. Акуратнай ачысткі і прамыўкі перавозачных сродкаў.

В. Закрыцця перавазімых малочных прадуктаў брэзентам.

Увага: 1. У зімовы час перавазімыя малочныя прадукты павінны быць пакрыты войлакам, цёплай коўдрай і т. п.

2. Фургоны гужавой цягі павінны мець спецыяльна абсталяваныя месцы для сядзення возчыкаў.

3. Сядзенні возчыкаў на прадуктах катэгарычна забараняецца.

10. Пры аўтамашынах і фургонах, прадвазначаных спецыяльна для перавозкі малочных прадуктаў, павінны быць у неабходнай колькасці для возчыкаў і грузчыкаў халаты і фартукі (як інвентар, які належыць данай аўтамашыне ці фургону), карыстанне якімі абавязкова ў час пагрузкі малочных прадуктаў на аўтамашыны і фургоны і пры выгрузцы іх на месца дастаўкі, пасля чаго халаты і фартукі павінны быць зняты і ўбраны ў скрынку (аўтамашыны ці фургона), спецыяльна прыстасаваную для гэтай мэты.

11. Перавозка малочных прадуктаў разам з другімі таварамі, у тым ліку і прадуктовымі—забараняецца.

12. Перавозка малочных прадуктаў транспартнымі сродкамі, якімі ўжо карысталіся раней або перавозка грузаў, якія маюць запах, без папярэдняй добрай ачысткі гэтых транспартных сродкаў—недапускаецца.

13. Транспартныя сродкі, якія прадназначаны для перавозкі малочных прадуктаў, павінны падвяргацца штодзённа добрай ачыстцы і прамыўцы.

14. Аўтамашыны і фургоны, якія спецыяльна прадназначаны для перавозкі малочных прадуктаў, павінны мець санітарную кнігу, у якую заносяцца рэзультаты агляда транспарта сан. урачамі.

## IV. Прыёмка.

15. Прыёмка малочных прадуктаў у магазіне праводзіцца дырэктарам магазіна або асобамі, якія спецыяльна вылучаны для гэтай мэты.

16. Прыёмка малочных прадуктаў праводзіцца па колькасці месц, вазе і па якасці, прычым у першую чаргу праводзіцца сверка атрыманага тавара з данымі суправаджальных дакументаў.

17. У выпадку неадпаведнасці дастаўленых малочных прадуктаў даным суправаджальных дакументаў, прыёмшчыкам складаецца адпаведны акт з удзелам здатчыка і прадстаўніка проф. арганізацыі.

18. Недобраякасны або неадпавядаючы стандартам ці тэхнічным умовам (кандыцыям) тавар магазінам не прымаецца. Пастаўшчык абавязан неадкладна даслаць недастаўлены і замяніць забракаваны тавар.

19. Прынятыя магазінам малочныя прадукты павінны быць неадкладна размешчаны ў падсобным памяшканні для хавання, а таксама ў гандлёвым зале магазіна для непасрэднага продажу.

## V. Хаванне.

20. Падсобнае памяшканне магазіна, які гандлюе малочнымі прадуктамі, павінна мець:

а) аддзяленне для хавання паступаючых прадуктаў, якое павінна быць сухім, добра вентыліруемым з тэмпературай не вышэй 10 град. Ц.

б) аддзяленне для ачысткі і хавання парожняй тары і для мойкі інвентара, які скарыстоўваецца пры водпуску тавараў.

> Увага: Хаванне малочных прадуктаў у падсобным памяшканні змешаных прадуктовых магазінаў, павінна праводзіцца ізалявана ад усіх іншых тавараў.

21. Малако і вадкія малочныя прадукты (кефір, простакваша, гарэнец) павінны хавацца ў шклянай лужонай металічнай або алюмініевай пасудзе.

Масла, тварог і смятана павінны хавацца ў драўлянай тары.

22. Пры прыём[illegible] піўшых у шклянай-[illegible] прыёмкі павінна [illegible] чыстай [illegible] анучай.

23. Пры паступленні малочных прадуктаў у запламбіраванай металічнай тары, распламбіроўка яе дазваляецца толькі перад пачаткам водпуска тавараў пакупнікам.

24. У мэтах забяспячэння водпуска пакупнікам добраякаснага тавара ўстанаўліваюцца наступныя гранічныя тэрміны хавання малочных прадуктаў:

а) свежага малака і слівак—1 дзень;

б) творага, сметаны і сырковай масы—2 дні летам і 5 дзён зімой;

в) масла слівачнага—3 дні летам і 5 дзён зімой;

г) масла таплёнага—15 дзён;

д) сыркоў, кефіра і простаквашы—2 дні;

е) цвёрдых сыроў усіх відаў—10 дзён, астатніх—5 дзён.

## VI. Арганізацыя продажу.

25. Сцены і столі гандлёвага зала, у якім прадаюцца малочныя прадукты, павінны быць аштукатураны, пабелены або афарбаваны светла-маслянай фарбай. На вышыні палутара метраў ад падлогі сцены павінны быць абліцаваны метлахскімі пліткамі ці афарбаваны маслянай фарбай.

26. Прылаўкі павінны мець шкляны бар'ер. Крышкі прылаўкаў павінны быць з мрамара, мрамарнай крошкі або таўстога шкла. У выключных выпадках крышкі прылаўкаў могуць быць драўляныя, пакрытыя лінолеумам.

27. Магазіны якія гандлююць малочнымі прадуктамі, павінны мець у гандлёвым залі закрытыя сценныя шафы для масла і сыра, выкладзеныя мрамарам і ў цёплае надвор'е забяспечваемыя холадам.

> Увага: 1. Шафы могуць быць заменены ахладжаемай вітрынай на прылаўку.
>
> 2. У выпадку хавання масла ў сценных шафах, масла выстаўляецца на прылавак у абмежаванай колькасці з тым, каб яно не губляла сваіх якасных уласцівасцей (не размягчалася).

28. Малочныя прадукты раскладваюцца на прылаўку па паасобных відах і гатунках. Назва тавара, гатунак і цана паказваюцца на ярлыках.

> Увага: Ярлыкі на дротавых ці драўляных шпільках, катэгарычна забараняецца прымацоўваць да прадуктаў. Ярлыкі прымацоўваюцца да спецыяльных падставак, або да тары, у якой тавар знаходзіцца.

29. Для водпуска малака і малочных прадуктаў павінны быць мерныя алюмініевыя або жалезныя лужоныя кружкі і чарпакі, лыжкі, лапаткі, нажы і т. п.

> УВАГА: Карыстанне адным і тым-жа нажом адначасова для масла і сыра не дапускаецца.

30. Для збірання зачыстак, вяровак, шпагата, пломб і т. п. пад прылаўкам павінны быць скрынкі, абітыя знутры ацынкованым жалезам і апаражняемыя не радзей аднаго раза ў дзень.

31. Водпуск пакупніку тавара праводзіцца чыстай вагой і поўнай мерай.

[illegible] развеснага тавара [illegible]а не больш аднаго кавалк[illegible] не больш [illegible] агульнай вагі заказа пакупніка, прычым давесак павінен адпавядаць гатушку і якасці адпускаемага тавара.

33. Пры водпуску пакупніку нерасфасаванага тавара, нарэзка, разліў, узвешванне і іншыя аперацыі, а таксама ўпакоўка праводзяцца на віду ў пакупніка.

34. Малако і сметана павінны адпускацца пакупніку з спецыяльных ушатаў, пастаўленых у ванны з вадой і ільдом.

35. Водпуск сметаны праводзіцца металічнымі лужонымі коўшамі (чарпакамі), а малако—металічнымі лужонымі літровымі і паўлітровымі меркамі.

У працэсе водпуска прадавец абавязан малако і сметану старанна перамешваць металічнай лужонай мутоўкай.

36. Сметана, тварог і сырковая маса перад выпускам у продаж павінны быць добра захаваны ад паверхоўнага механічнага забруджання і заветрыўшагася слоя.

37. Масла слівачнае і маргарын пры паступленні ў продаж павінны аслабаняцца ад абвёрткі і добра захоўвацца з усіх бакоў ад паверхоўных механічных забруджанняў.

38. Адкрытая паверхня сыра, ад якога адразаецца тавар пакупніку, павінна быць свежай і чыстай, для чаго штодзённа перад пачаткам водпуска прадавец абавязан удаляць заветраную паверхню сыра.

Галандскі сыр адпускаецца пакупніку з коркай, але сыр павінен наразацца глыбінёй да цэнтра (сегментам) з такім разлікам, каб корка ў кавалка была суразмерна размеру адпускаемага кавалка сыра.

Пры водпуску іншых сыроў, у кавалку дапускаецца наяўнасць коркі не больш чым з 3-х бакоў.

Сыры Бакштэйн, Тыльзіт і Лімбургскі павінны адпускацца спажыўцу ачышчанымі ад заводскай паперы.

Продаж сыроў з сырой, аслізшай, заплесневелай коркай не дапускаецца.

39. Пры водпуску пакупнікам сыра прадавец абавязан, па патрабаванню і паказанню пакупніка, нарэзаць яго ломцікамі.

40. Масла ўсіх відаў і маргарын, таксама сыр адпускаюцца ў двайной упакоўцы (у падпергаментнай паперы і абвёрткачнай).

Разліўна малако і сметана адпускаюцца ў пасуду пакупніка, прычым адліваць з пасуды пакупніка ў тару забараняецца.

Тварог адпускаецца ў пакетах (кульках) з белай паперы. Пастэрызаванае малако, простакваша, кефір адпускаюцца ў арыгінальнай упакоўцы.

## VII. Санітарнае становішча магазіна.

41. Увесь інвентар, які скарыстоўваецца ў магазіне (кружкі, нажы, лапатачкі і т. п.) павінен штодзённа, да пачатку гандля, абмывацца гарачым содавым растворам і насуха выціраецца чыстым ручніком.

42. Перад пачаткам і па сканчэнні гандля павінна быць праведзена поўная ўборка магазіна (палаткі)—мыццё гарачай вадой з шчолакам падлог, прылаўкаў, шафаў, полак.

У В А Г А: *Для падмятання падлогі могуць скарыстоўвацца сырыя апілкі, якія, аднак, не могуць застацца на падлозе ў якасці насціла.*

43. Раз у квартал у магазіне павінна праводзіцца дэзінфекцыя.

44. У працягу рабочага дня прадавец абавязан сачыць за чыстатой рабочага месца і інвентара, які знаходзіцца пры ім.

У кожнага прадаўца на рабочым месцы павінен быць ручнік.

45. Усе прадаўцы абавязаны штомесячна падвяргацца медычнаму агляду.

Новыя работнікі прымаюцца на работу ў магазін толькі пасля праходжання медычнага агляда.

46. Прадаўцы павінны стала сачыць за чыстатой рук і нагцей, коратка стрыжучы апошнія. Пры рабоце прадаўцы павінны быць у чыстай санвопратцы. У магазіне павінна быць не менш 3-х камплектаў санвопраткі на кожнага прадаўца. Пры ўсякіх адлучках з месца работы санвопратка павінна знімацца.

47. У магазіне павінен быць умывальнік з мылам, ручніком і шчоткай для рук.

48. У магазінах павінна весціся пастаянная барацьба з насекомымі і грызунамі, па меры іх выяўлення.

49. Курыць у магазіне забараняецца, аб чым павінна быць вывешана аб'ява на відным месцы.

* * *

50. Гандлюючыя арганізацыі, у веданні якіх знаходзяцца магазіны, палаткі або аддзяленні, якія гандлююць малочнымі прадуктамі, абавязаны давесці гэтыя правілы да ведама ўсіх работнікаў гэтых магазінаў, палатак і аддзяленняў.

# Пашырыць асартымент булачных вырабаў з мукі 85 проц. памола

## З А Г А Д

### па Народнаму Камісарыяту Ўнутранага Гандля БССР

15 кастрычніка 1935 г. **№ 362** г. Менск.

На падставе тэлеграфнага распараджэння Саюзнаркамунутгандля ад 12/Х—35 г. за № 8195—д а з в о л і ц ь:

1. Выпечку і продаж пашыранага асартымента хлеба-булачных вырабаў з пшанічнай мукі 85 % намола—халы, плецёнкі, булачная мелач, сушкі розныя, сухары гарадскія, ванільныя і кафейныя па ўсім гарадам і раённым цэнтрам.

2. Абавязаць Белкаапсаюз—нетрэсціраванае хлебапячэнне, Белхарчпрамсаюз і Белкаапінсаюз — зараз-жа прыступіць да выпечкі булачных вырабаў пашыранага асартымента з пшанічнай мукі 85% памола.

3. Белкаапсаюзу і Белхарчгандлю даць указанні сваім гандлюючым арганізацыям аб разгортванні гандлю паказаным асартыментам булачных вырабаў.

4. Гор. Райунутгандлям прасачыць за тым, каб выпякаючыя арганізацыі, з атрыманнем гэтага загада, зараз-жа прыступілі да выпечкі пшанічных вырабаў з мукі 85% памола.

Нам. Народнага Камісара
Ўнутранага Гандля БССР **І. ВЕРБА**

# ЗНІШЧЫЦЬ НЕДАХОПЫ Ў ГАНДЛІ МЯСАМ

## Загад па Народнаму Камісарыяту Ўнутранага Гандля БССР

17 кастрычніка 1935 г. **№ 365.** г. Менск

Негледзячы на паасобныя распараджэнні і прапановы аб прыняцці рада мерапрыемстваў па палепшанню гандля мясам, практыка гандля выяўляе рад недахопаў:

1. Гандлюючыя арганізацыі не звяртаюць дастатковай увагі пытанням гандля мясам, у выніку загады Наркамунутгандля БССР, пасланыя і ўручаныя 11—13 кастрычніка, пры праверцы 16/X—у магазінах адсутнічалі.

2. З правіламі гандля мясам, пасланымі яшчэ на пярэдадні 1-га кастрычніка, большасць работнікаў прылаўка зусім незнаёмы. Правілы гандля мясам не вывешаны ў магазінах на віду ў пакупнікоў і правілы гэтыя ў радзе магазінаў парушаюцца.

3. Разасланыя паасобныя прэйскуранты цэн на мяса розных гатункаў і ўпітанасці ў магазінах адсутнічаюць:

4. Негледзячы на поўную магчымасць забяспечыць магазіны бітай птушкай усіх гатункаў, ні ў водным спецыялізаваным магазіне на працягу 4—5 дзён не было птушкі.

5. У радзе магазінаў санітарна-гігіенічныя патрабаванні, згодна правіл гандля мясам—не ўжываюцца: халаты брудныя, прадаўцы непабрытыя, з бруднымі нагцямі.

6. Негледзячы на наяўнасць у продажу дробнага разнавеса, апошні ў магазінах на працягу двух тыдняў адсутнічаў, а ў большасці магазінаў яшчэ і зараз адсутнічае.

7. Тэхвучоба для прадаўцоў мяса па вызначэнню гатунковасці, упітанасці, правільнай гатунковай разрубкі мяса ў гандлюючых арганізацыях не арганізавана.

Паказаныя вышэй недахопы з'яўляюцца абсалютна нецярпімымі і падцвярджаюць, што кіраўнікі і вылучаныя адказныя асобы да гэтага часу не мабілізавалі свайго апарата на знішчэнне недахопаў і не забяспечылі сапраўды культурных метадаў савецкага гандля мясам і мясапрадуктамі.

Падцвярджаючы ўсе выданыя раней загады і распараджэнні, пад стражайшую адказнасць усіх кіраўнікоў арганізацый, гандлюючых мясам і загадчыкаў магазінаў—загадваю:

1. Зараз-жа склікаць увесь апарат работнікаў па гандлю мясам, шырока праінфарміраваўшы яго аб усіх мерапрыемствах Наркамунутгандля па гандлю мясам, давесці ўсе распараджэнні да кожнага прадаўца і забяспечыць безагаворачнае і поўнае правядзенне іх у жыццё.

2. Кожнай арганізацыі вылучыць адказнага выканаўца па пытаннях гандля мясам, абавязаўшы яго забяспечыць ва ўсіх магазінах дакладнае і поўнае правядзенне ў жыццё ўсіх рэкамендуемых мерапрыемстваў. Устанавіць парадак і адказнасць пэўных асоб за тэрміновае давядзенне ўсіх загадаў і распараджэнняў да гандлюючай сеткі.

3. Арганізаваць тэхвучобу для ўсіх прадаўцоў магазінаў, запрасіўшы для вядзення вучобы высокакваліфікаваных спецыялістаў па рубцы мяса, хаванню, тэхніцы водпуска і т. д.

4. Усе магазіны зараз-жа забяспечыць:

а) паасобнымі прэйскурантамі на рознае мяса;

б) ярлыкамі, з абазначэннем цэн, віда мяса, упітанасці і гатунка;

в) дробным разнавесам гір;

г) разліковымі табліцамі па вызначэнню кошта мяса.

5. Ва ўсіх магазінах мець плакаты па гатунковай разрубцы мяса і вывесіць на відным месцы прозвішча вылучанага адказнага рубшчыка мяса.

6. Раскладку мяса па паліцам і на прылаўку праводзіць паасобна: па ўпітанасці і гатунку.

7. Дакладна ўжываць водпуск тавараў без адыходаў чыстай вагой.

8. Для продажу збоя набыць блюды, размяшчаючы іх на прылаўку, з якіх праводзіць самы водпуск.

9. Забяспечыць магазіны неабходнай колькасцю камплектаў сан. адзення.

10. Гандлюючым арганізацыям тэрмінова праверыць становішча сеткі, абсталяваўшы і пашырыўшы кладовыя і устанавіць усюды вентылятары.

11. Як вопыт, устанавіць у паасобных магазінах касы. Бланкі ведамасцей ў касіраў павінны быць пранумараваны.

12. У магазінах з лікам рабочых месц 3—5 вылучыць паасобных прадаўцоў па продажу мяса пэўных гатункаў, практыкуючы выдачу ім мяса з кладовай ў разрубленым відзе пад справаздачу.

13. Для папярэджання магчымасцей змешвання мяса球 рознага па ўпітанасці, мяса паступаючае ў магазіны на кожнай чатвярцінцы, павінна мець штамп з абазначэннем упітанасці—лічбамі: жырнае—1, вышэй сярэдняй—2, сярэдняй упітанасці—3, ніжэй сярэдняй—4.

14. У суправаджальных дакументах з мясакамбіната паказваць колькасць мяса па кожнаму віду ўпітанасці паасобна.

Адзначаючы недастатковы ўдзел прафесіянальных арганізацый у справе палепшання гандля мясам, прасіць ЦП Саюза работнікаў дзяржгандля даць адпаведныя ўказанні па лініі мясцкомаў і профупаўнаважаных.

Наркамунутгандль БССР заклікае ўсіх кіраўнікоў гандлюючых арганізацый, загадчыкаў магазінаў і прадаўцоў зрабіць рашучы пералом у бок тэрміновага знішчэння недахопаў і прыняць самыя рашучыя меры, якія забяспечылі бы палепшанне гандля мясам.

Асобы, парушаючыя рэкамендуемыя мерапрыемствы па палепшанню гандля мясам, будуць разглядацца як парушыцелі дырэктыў партыі і ўрада аб разгортванні культурнага савецкага гандля і будуць прыцягнуты да адказнасці.

Копію загада даслаць Горунутгандлю, Горсовету, ЦП Саюза работнікаў дзяржгандля, Інспекцыі па якасці і Дзяржаўнай Гандлёвай Інспекцыі, Белмяса, Мясакамбінату, Белптушкапрадукту.

Народны Камісар Унутранага Гандля БССР
**Н. Гурэвіч.**

# Бітую птушку прадаваць таксама часткамі

## ЗАГАД

### па Народнаму Камісарыяту Ўнутранага Гандля БССР

16 кастрычніка 1935 г. **№ 366** г. Менск.

Улічваючы вялікі попыт на пакупку бітай птушкі часткамі, у мэтах палепшання абслугоўвання спажыўцоў, загадваю:

1. Пад адказнасць кіраўнікоў гандлюючых арганізацый і дырэктароў магазінаў поўнасцю і бесперабойна забяспечыць наяўнасць у кожным магазіне бітай птушкі ўсіх відаў і гатункаў.

2. Арганізаваць у магазінах Менхарчгандля №№ 34, 50, 82—продаж бітай птушкі—куры I і II гатункаў, таксама часткамі без патрахоў як цалкам, так і палавінкамі і чверткамі.

3. Патрахі (лапкі, пупок, галоўка, печань і т. д.)—прадаваць па патрабаванню пакупнікоў паасобна камплектамі.

4. Нез'ядобную частку (кішка, жэлч) у продаж не дапускаць, а збіраць у спецыяльных скрынках, абітых ацынкаваным жалезам.

Гандлюючым арганізацыям дагаварыцца з арганізацыямі грамадскага харчавання аб магчымасці скарыстання гэтых адыходаў.

5. Выходзячы з процантных суадносін выхада пры разрубе птушкі і яе патрашэння, продаж бітых кур праводзіць па наступных цэнах:

а) кура I гатунка без патрахоў —12 р. за кгр.
б) „ II „ „ „ — 9 р. „ „

Патрахі (лапкі, галоўкі, печань, пупок і т. д.)—цана за камплект устанаўліваецца незалежна ад гатунка і вагі—90 кап.

6. Неадкладна вывесіць у паказаных вышэй магазінах прэйскуранты цэн і аб'явы аб продажу бітых кур часткамі.

Загад давесці да магазінаў.

Нам. Наркома Ўнутранага Гандля БССР **І. Вврба**

---

# Парадак гандлю раслінным маслам

## ЗАГАД

### па Народнаму Камісарыяту Ўнутранага Гандля БССР

17 кастрычніка 1935 г. **№ 368** г. Менск.

У мэтах палепшання абслугоўванне спажыўцоў пры продажы расліннага масла і рацыяналізацыі тэхнікі водпуска масла загадваю:

1. Пад адказнасць кіраўнікоў гандлюючых арганізацый і дырэктароў магазінаў забяспечыць гандлёвую сетку сланечным маслам развесным і фасаваным.

2. Развеснае сланечнае масла, а таксама канаплянае, ільняное і інш. прадаваць таксама літрамі ў наступных аб'ёмных мерах: 50, 100, 250, 500 і 1000 кб. сант., для чаго прыняць зараз-жа меры па забеспячэнню гандлёвай сеткі адпаведным інвентаром, апрабаваным органамі Цэнтр. Упраўлення мер і вагаў.

3. Побач з гэтым вырабіць для магазінаў металічныя або шкляныя бачкі з кранамі, з якіх вытвараць водпуск масла на віду ў пакупніка, строга ўжываючы санітарна-гігіенічныя правілы.

4. Гандлюючым арганізацыям пры продажы літрамі сланечнага або другога расліннага масла рабіць перавод з кілаграма на літры, строга прытрымліваючыся ўстаноўленага каэфіцыента „925“ г. зн. 1 літр = 925 грам.

5. У адпаведнасці з устаноўленымі цэнамі на розныя віды расліннага масла, выходзячы з удзельнай вагі і ўстаноўленага каэфіцыента ўстанавіць наступныя цэны на расліннае масла развеснае нефасаванае:

а) масла сланечнае рафініраванае—12 р. 50 к. за літр
б) „ „ нерафініраванае—12 р. „ „
в) „ канаплянае нерафініраванае 11 р. 60к. „ „
г) „ ільняное нерафініраванае—12 р. 50 к. „ „
д) „ гарчычнае рафініраванае—12 р. 50 к. „ „

6. Гэты загад давесці да кожнага магазіна. Горрайунутгандлям прасачыць за дакладным і поўным правядзеннем яго ў жыццё.

Народны Камісар Унутранага Гандля БССР **Н. ГУРЭВІЧ**

---

# Гандлёвыя накідкі на галантарэю і музінструменты

## ПАСТАНОВА

### Народнага Камісарыята Ўнутранага Гандля БССР

5 кастрычніка 1935 г. **№ 681** г. Менск.

На падставе пастановы Наркамунутгандля БССР № 893 ад 16 верасня 1935 г. Народны Камісарыят Унутранага Гандля БССР пастанаўляе:

1. Устанавіць гандлёвыя накідкі на музычныя інструменты і галантарэйныя тавары на адпускную цану прамысловасці з уключэннем чыгуначнага фрахта і гужа:

а) па ўсім музыкальным інструментам гранічную накідку—не звыш 20 проц.;

б) па галантарэйных таварах—першай групы (шчоткі зубныя, клеёнка розная, грэбні частыя і расчоскі)—11,3 проц.

в) па галантарэйных таварах другой групы (увесь астатні асартымент) для горада—28 проц., для сяла—32 проц.

г) па тэхнічных тканях (клеёнка дэрмацін, гранітоль) —15 проц.

2. Устанавіць для аптовых гандлюючых арганізацый па складскому звароту галантарэйных тавараў размер накідкі на адпускныя цэны прамысловасці (паміма транспартных выдаткаў):

а) па рэспубліканскіх складах—2,3 проц.;
б) па раённых складах—3,0 проц.

Устаноўлены размер накідак увесці з часу водпуска прамысловасцю тавараў па новых адпускных цэнах.

Народны Камісар Унутранага Гандля БССР **Н. ГУРЭВІЧ**

# Прывесці ў парадак вагавую гаспадарку

## Загад па Народнаму Камісарыяту Ўнутранага Гандля БССР

16 кастрычніка 1935 г. **№ 367.** г. Менск.

Надаючы выключнае значэнне пытанню правільнай арганізацыі вагавай гаспадаркі і ажыццяўленню кантроля вага-вымяральных прыбораў—з а г а д в а ю:

1. Усім гандлюючым арганізацыям падрабязна азнаёміцца з палажэннем аб парадку праверкі вымяральных прыбораў, зацверджаным Наркамунутгандлем Саюза ССР.

2. У кожнай гандлюючай арганізацыі вызначыць спецыяльных работнікаў, забяспечыўшы спецыяльную іх падрыхтоўку, на якіх ускласці сістэматычны кантроль і праверку правільнага ўтрымлівання і скарыстання вымяральных прыбораў.

3. Вызначаных спецыяльных работнікаў па праверцы вымяральных прыбораў узяць на ўчот у Горрайунутгандлях і мясцовых органах Упраўлення мер і вагаў.

4. Планы работ па праверцы вымяральных прыбораў паведаміць Горрайунутгадлям і Упраўленню мер і вагаў.

5. Даручыць т. РУБІНУ прасачыць за выкананнем гэтага рашэння і прыняць актыўны ўдзел у падрыхтоўцы работ па праверцы вымяральных прыбораў.

Нарком Унутранага Гандля БССР **Н. Гурэвіч**

# ПАЛАЖЭННЕ

## Аб парадку праверкі вымяральных прыбораў у гандлюючых арганізацыях

*(Зацверджана пастановай НКУГ СССР № 618 ад 13|VII—35 г.)*

1. Сталая і сістэматычная праверка становішча правільнасці ўтрымлівання і скарыстання вымяральных прыбораў, якія знаходзяцца ў звароце ў гандлёвых арганізацыях, ажыццяўляецца самімі гандлюючымі арганізацыямі, якія вызначаюць для гэтага спецыяльных работнікаў.

2. Функцыі па праверцы вымяральных прыбораў ускладаецца або на асобных інспектароў па праверцы вымяральных прыбораў, інспектарскі ці інструктарскі апарат, або на іншых работнікаў гандлюючых арганізацый.

3. Вызначаныя для праверкі вымяральных прыбораў работнікі павінны прайсці спецыяльную падрыхтоўку і могуць дапускацца да праверкі, толькі пасля здачы спецыяльных іспытаў.

> У в а г а: 1. Арганізацыя падрыхтоўкі работнікаў па праверцы вымяральных прыбораў праводзіцца гандлёвымі сістэмамі па ўзгадненню з Цэнтральным упраўленнем мер і вагаў.
>
> 2. Работнікі па праверцы вымяральных прыбораў састаяць на ўчоце як у мясцовых органах Унутранага Гандля, так і ў мясцовых органах Цэнтральнага ўпраўлення мер і вагаў.

4. Работнікі па праверцы вымяральных прыбораў кіруюцца ў сваёй дзейнасці ўказаннямі і тэхнічнымі інструкцыямі, як органаў Наркамунутгандля так і Цэнтральнага ўпраўлення мер і вагаў.

5. На работнікаў па праверцы вымяральных прыбораў ускладаюцца наступныя функцыі:

а) нагляд за дакладнасцю вымяральных прыбораў, якія знаходзяцца ў звароце і своечасовым іх клейменнем;

б) праверка ўстаноўкі і становішча вагаў, гір, мер даўжыні, аб'ёма і ёмкасці і ўсіх іншых вымяральных прыбораў, якія знаходзяцца ў звароце ў той ці іншай арганізацыі;

в) кантроль за выкананнем адпаведнымі гандлёвымі прадпрыемствамі законаў і правіл карыстання вымяральнымі прыборамі, у прыватнасці, праверка правільнасці вядзення пашпартаў на вымяральныя прыборы;

г) прыняцце неабходных мер для знішчэння выяўленых няспраўнасцей і парушэнняў правіл карыстання вымяральнымі прыборамі;

д) удзел у неабходных выпадках пры прыёмцы вымяральных прыбораў, якія паступаюць у гандлёвыя арганізацыі з заводаў або ад пастаўшчыкоў.

е) інструктаванне работнікаў гандлёвых прадпрыемстваў па выкананню правіл карыстання вымяральнымі прыборамі і навучання асоб, якія працуюць з вымяральнымі прыборамі, правільнаму карыстанню і ўходу за імі;

ж) учот вымяральных прыбораў і вызначэнне патрэбнасці гандлюючых арганізацый у гэтых прыборах.

6. Для ажыццяўлення ўказаных у арт. 5 функцый работнікі па праверцы вымяральных прыбораў маюць права:

а) уваходзіць ва ўсе гандлёвыя памяшканні і склады належных гандлёвых арганізацый, дзе знаходзяцца вымяральныя прыборы, з мэтай праверкі становішча і работы прыбораў і выканання правіл учота іх, утрымлівання і карыстання імі;

б) праводзіць апечатванне і із'яцце незаконных, неспраўных ці неадпаведных устаноўленым стандартам вымяральных прыбораў з забаронай карыстання імі;

в) у выпадках парушэння законаў і правіл аб мерах і вагах асобамі, якія працуюць з вымяральнымі прыборамі, складаць акты за сваім подпісам для прыцягнення вінаватых да адказнасці.

г) рабіць абавязковыя для належных гандлёвых арганізацый прапановы ў адносінах устаноўкі, скарыстання, рамонта і із'яцця з звароту вымяральных прыбораў.

7. Нагляд і праверка вымяральных прыбораў праводзяцца ў планавым парадку не менш аднага раза

ў квартал з праверкай вагаў на 0,1 грузапад'ёмнасці і частковай выверкай гір.

Раз у год праверка кожных вагаў праводзіцца на поўную іх грузапад'ёмнасць і з поўнай выверкай гір.

8. Для выканання сваіх абавязкаў работнікі, якія правяраюць вымяральныя прыборы, павінны быць забяспечаны камплектам узорных вымяральнікаў.

Увага: Склад камплекта ўзорных вымяральнікаў выпрацоўваецца Народным Камісарыятам Унутранага Гандля СССР па ўзгадненні з Цэнтральным упраўленнем мер і вагаў.

9. Работа па праверцы вымяральных прыбораў праводзіцца на аснове гадавога і квартальных вытворчых планаў, складаемых гандлёвамі арганізацыямі і прадугледжваючы ўсе віды работ, якія павінны быць выкананы ў аперацыйным годзе з разбіўкай іх на кварталы.

10. Гадавы і квартальныя планы работ па праверцы вымяральных прыбораў паведамляюцца для ведама мясцовым органам Наркамунутгандля і Цэнтральнага ўпраўлення мер і вагаў.

# СПРОС И ПРЕДЛОЖЕНИЕ ТОВАРОВ

## Бюро спроса и предложения товаров при Наркомвнуторге БССР

г. Минск, Советская ул. Дом Правительства, левое крыло, 4-й этаж, комн. 415, тел. 22-540. Адрес для телеграмм — МИНСК, БЕЛТОВАРБЮРО, тек. сч. в Белорусской конторе Госбанка, № 160/10076.

# ПРЕДЛОЖЕНИЕ ТОВАРОВ

### Пищевкусовая группа.

Соки клюквенные в любом количестве по 24 р. 30 к. за декалитр. Тоже брусничные—25 р. 20 к., соки яблочные—10 000 декалитров—18 р. декалитр, франко-станция отправления. Расчет акцептом.

Тесто яблочное—50 тонн—1150 р. тонна, тесто брусничное—20 тонн 1443 руб. тонна, франко-склад артели Витебск. Расчет акцептом.

Тесто яблочное—100 тонн—1200 руб. тонна, брусничное—100 тонн—1508 руб. тонна, клюквенное—100 тонн—1508 руб. тонна, франко-станция—пристань, расчет акцептом.

Тесто яблочное II-го сорта—50 тонн—1170 руб. тонна, франко-завод. Расчет акцептом.

Тесто брусничное—300 тонн—2000 р. тонна, франко-станция отправления. Расчет акцептом.

### Промтоварная группа.

Топоры плотничьи белорусского образца—15.000 штук—7 р. 30 к. штука, франко-склад производства. Расчет акцептом.

Оси со втулкой № 2—800 штук по 25 р. 30 к. штука; замки амбарные—2000 штук—6 р. 25 к. штука.

Чуни веревочные—20 тыс. пар—3 р. 50 к. пара, франко-склад артели, расчет акцептом.

Шкафы сосновые для колхозных библиотечек—150 штук—50 р. штука. Расчет акцептом.

Пуговицы перламутровые I и II сорта в разном ассортименте по цене от 23 р. 44 к. до 40 р. 30 к. за сотню—франко-склад производства. Расчет акцептом.

### Лесохимическая группа.

Колесная мазь-галипотная—500 тонн—433 р. тонна, франко-вагон станция отправления.

Деготь химический искусственный—300 тонн—500 р. тонна, франко-вагон станция отправления, расчет акцептом.

Торфяная смола—3000 тонн—120 р. тонна.

Коломазь-галипот—100 тонн—416 р. 70 к. тонна, франко-вагон станция отправления. Расчет акцептом.

Лак асфальтовый—100 тонн—937 р. тонна, франко-завод.

Сани городские и крестьянские по цене 35 р. 43 к. крестьянские и 37 р. 48 к. городские.

### Тара.

Корзины багажные—63 см.—500 штук—15 р. 05 к. штука, 72 см.—200 штук—16 р. 74 к. и 90 см—100 штук—26 р. 72 к. Расчет акцептом.

Ящики тарные плетенные 20—30 тыс. комплектов—3 р. 80 к. за комплект.

Пробки бутылочные деревянные березовые—34.000 штук—30 р. за тысячу, расчет акцептом.

Корзины под хим. балоны—30 тыс. штук—2 р. 30 к. штука, франко-производство. Расчет акцептом.

### Хозяйственные товары.

Розетки деревянные разных размеров по 70 р. за тысячу штук, франко-станция отправления, расчет акцептом.

Обычайка сосновая—250 коп.—33 р. копа, франко-склад.

Дрань штукатурная—500.000 штук—20 р. 51 к. за тысячу штук.

## Спрос товаров.

Белила свинцовые, тоже цинковые, охра золотистая, сурик свинцовый, ультрамарин, краска эмалевая, разные лаки, анилиновые краски, москательные товары, клей столярный, кислота соляная, тоже серная, наждачное полотно, наждачная бумага, пемза натуральная, сода каустическая, воск пчелиный, толь кровельный, фанера листовая, стекло оконное, кисти малярные, канифоль, шпагат, картон, обои, гипс, известь, мел.

Выданне Наркамунутгандля БССР—Дом Урада, 4-й паверх, пак. 405, тэл. 23-287.

Адк. рэдактар І. І. Верба. Адк. сакратар рэдакцыі В. Адлерштэйн.

Школа ФЗВ друкарні ім. Сталіна. Зак. 1220. Тыраж 750 экз. Галоўлітбел № 4820.